Гродна
№22 (433),
29 лістапада 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## “НА ВАС РАЗЛІЧВАЕ ВЕРНЫ ЛЮД...”



У літаніі ўсе просяць Божай ласкі для кандыдатаў

**21 лістапада ў гродзенскай катэдры адбыліся пасвячэнні прэзбітэрату і дыяканату. Дыяканамі сталі клерыкі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі: Дзяніс Бразінскі, Анджэй Ганчар і Андрэй Скамарошка. А пасвячэнне прэзбітэрату прыняў дыякан Алег Яновіч.**

Распачынаючы Найсвяцейшую Эўхарыстыю, кс. бп Аляксандр Кашкевіч прывітаў усіх прысутных і адзначыў, што пасвячэнні з'яўляюцца важнай падзеяй у жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Таксама іерарх закрануў пытанне вялікай адказнасці святарскай паслугі ў Касцёле, якая заключаецца ў штодзённым нясенні крыжа і паміранні для людзей, да якіх былі пасланыя, па прыкладзе кінутага ў зямлю зярняці, каб прынесці шчодры плён.

працяг на с. 5

## БП АЛЯКСАНДР КАШКЕВІЧ:

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"

### БУДУЧЫНЯ НАШАЙ СЕМІНАРЫІ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД БУДУЧЫНІ ПАКЛІКАННЯЎ У НАШЫМ КАСЦЁЛЕ

З біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандрам Кашкевічам на тэму паклікання, неабходнасці семінарыі ў дыяцэзіі, пасвячэнняў дыяканату і прэзбітэрату, а таксама выхавання будучых святароў размаўляў кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.

працяг на с. 4–5



Кс. бп Аляксандр Кашкевіч і кс. д-р Раман Рачко, рэктар семінарыі

### Каляндар падзей

*30 лістапада*
свята св. апостала Андрэя.
*5 снежня*
гадавіна асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.
*8 снежня*
ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.
*13 снежня*
бласлаўленне маці, якія чакаюць патомства.

***Запрашаем да ўдзелу ў рататніх св. Імшах і ў адвэнтавых рэкалекцыях.***

### Запрашаем!

**Праграмы каталіцкай рэдакцыі:**

**“Голас Евангелля”**
Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.
**Кожную нядзелю ў 8.00**
запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.
**Гродна 103,0 FM**
**Свіслач 105,9 FM**

**“Сімвал веры”**
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2”
**7 снежня**
**ў панядзелак у 18.05**
пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.

### Ружанцовыя інтэнцыі:

**Снежань**

За бацькоў, якія чакаюць нараджэння дзяцей.

За развіццё ў парафіях дыяцэзіі справы духоўнага ўсынаўлення зачатага дзіцяці і абароны кожнага жыцця.

### Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

**Ці ўдзельнічаеце Вы ў рататняй св. Імшы?**

- так
- так, але час ад часу
- лічу, што гэта св. Імша для дзяцей
- калісьці так, цяпер не
- не, не падыходзіць гадзіна
- не
- цяжка сказаць

выкажыся

**“Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны” (Лк 6, 36)**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

## І НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Лк 21, 25–28. 34–36**

Езус сказаў сваім вучням: “Будуць знакі на сонцы і месяцы, і зорках, а на зямлі – спалох народаў і замяшанне ад гулу марскога хвалявання. Людзі будуць млець ад страху і ад чакання таго, што прыйдзе на свет, бо захістаюцца моцы нябесныя. І тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзеісці ў воблаку з моцаю і славаю вялікай. Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца адкупленне вашае.

Зважайце ж на сябе, каб сэрцы вашыя не былі абцяжараныя пахмеллем і п’янствам, і жыццёвымі клопатамі, і каб дзень той не застаў вас неспадзявана, як пастка. Бо ён прыйдзе на ўсіх, хто жыве на паверхні ўсёй зямлі. Дык чувайце ўвесь час і маліцеся, каб вы маглі пазбегнуць усяго таго, што павінна адбыцца, і стаць перад Сынам Чалавечым”.

## ЁН ПРЫХОДЗІЦЬ І ЎЖО ЁСЦЬ

Колькі разоў Бог уваходзіў у маё жыццё? Колькі разоў я мог перажываць радасць сустрэчы з Ім, з Яго дабрынёй, бацькоўскай шчодрасцю? Сам факт, што я існую і магу задаваць падобныя пытанні, з’яўляецца вельмі выразным доказам, што ў сваёй задуме Ён бачыў мяне як таго, з кім зможа размаўляць, што я буду дзякаваць Яму, а часам нават і паспрачаюся... Так, можна стварыць сабе ўяўленне “адсутнага”, “не сённяшняга”, а нават залішне жорсткага Бога, але цяжка Яму адмовіць у рашучасці, калі справа датычыцца быцця з намі: каб быць побач, Бог у сваім Сыне стаў чалавекам і раздзяляў з намі наш лёс, нёс нашыя слабасці аж на Галгофу. Ён запэўніў сваіх самых блізкіх вучняў, што будзе з імі ва ўсе дні, ажно да сканчэння свету. Таму паўторны прыход Сына Чалавечага будзе нічым іншым, як вынікам жадання быць з людзьмі на працягу ўсёй вечнасці. Тады мы ўбачым Яго ў хвале, у боскай веліччы. А пакуль што давайце вучыцца бачыць Яго ў Касцёле, у нашых радасцях і журботах, не забываючыся, што з-за нас Ён быў гатовы памерці на крыжы.

## ІІ НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Лк 3, 1–6**

У пятнаццатым годзе панавання Тыберыя цэзара, калі Понцій Пілат панаваў у Юдэі, а Ірад быў тэтрархам у Галілеі, Філіп, брат ягоны – тэтрархам у Ітурыі і Траханідскім краі, а Лізанія – тэтрархам у Абіленах; пры першасвятарах Анне і Каяфе, было скіравана слова Божае да Яна, сына Захарыі, у пустыні. І ён абходзіў усе ваколіцы Ярдана і прапаведаваў хрост пакаяння для адпушчэння грахоў, як напісана ў кнізе прамоў прорака Ісаі: “Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму! Кожная даліна ўзвысіцца, кожная гара і пагорак панізяцца, і выбоістыя дарогі стануць раўнінай, і ланцугі гор – далінаю. І ўбачыць кожнае цела Божае збаўленне”.

## ХОЦЬ ВЕКАВАЯ, АЛЕ ЗАЎСЁДЫ НАВІНА І ЗАЎСЁДЫ ДОБРАЯ

Яшчэ раз Касцёл вуснамі пракокаў нагадвае пра надыходзячую поўню часу. Падзеі дзвюхтысячагадовай даўнасці – гэта не толькі прыгожае павучальнае апавяданне, каб мы былі лепшымі. Св. Лука надаў апісваемай гісторыі канкрэтныя межы ў часе і прасторы. У нас не можа ўзнікаць сумненняў аб аўтэнтычнасці згадваемых постацей: цэзара Тыберыя, пракуратара Понція Пілата, цара Ірада ці першасвятароў Анны і Каяфы. Выразнай постаццю быў Ян Хрысціцель ці нават згадваемы ім прарок Ісая. Сапраўднымі былі людзі, якія яго слухалі, і канкрэтнымі былі грахі, з якіх яны спрабавалі паўстаць, каб падрыхтаваць дарогу Пану. Не ўдасца праігнараваць евангельскае сведчанне: прыход Езуса на зямлю, Яго жыццё і вучэнне так глыбока працялі гісторыю, што немагчыма аддзяліць адно ад другога.

Сёння Божае слова накіравана да нас. Да людзей з цела і крыві, якія змагаюцца з актуальнымі праблемамі, грахамі. Калі пагоркі і даліны і ў наш час будуць зраўняныя, то і нам удасца не толькі ўбачыць, але і заслужыць Божае збаўленне. Надзейнасць гэтага запавету пацвярджае мінулае і... вечнасць.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# АДВЭНТ – час чакання Міласэрнасці

**СЛОВА РЭДАКТАРА**



*Кс. Павел Салабуда*

Чарговы Адвэнт у нашым жыцці будзе незвычайным. Менавіта ў гэты час будуць урачыста адчынены адпустовыя Дзверы Міласэрнасці ў Рыме, а пазней у катэдры кожнай дыяцэзіі. Адкрыццё гэтых Дзвярэй з’яўляецца незвычайным сімвалам адкрыцця для кожнага з нас вялікай таямніцы Міласэрнасці. Таму варта засяродзіцца на Міласэрнасці ў Адвэнце і не толькі.

Міласэрнасць вядзе нас перш за ўсё пад Крыж Езуса, дзе Збаўца свету ахвяруе сваё жыццё за кожнага чалавека. З Крыжа выходзіць Міласэрнасць Езуса для ўсяго свету. Пачатак гэтай збаўчай місіі Міласэрнасці ў дачыненні да людзей знаходзіцца ў моманце Звеставання, калі Марыя даведваецца, што стане Маці Міласэрнасці. Мы неаднаразова будзем разважаць над гэтым падчас Адвэнту ў хвіліны ратарніх сустрэч з Марыяй, якая паказвае сабой, наколькі вялікая міласэрнасць чакае кожнага чалавека, што будзе сведкам нараджэння Хрыста ў сваім сэрцы. З Адвэнту разам з Марыяй распачынаецца таксама наша жыццёвая дарога да Міласэрнасці, да Езуса, да дрэва Крыжа. А пазней, без сумненняў, таямніца Міласэрнасці прывядзе нас у Неба.

“Дзённік” святой сястры Фаўстыны павінен шырока раскрыць нам вочы на нашу дарогу Міласэрнасці з Богам тут, на зямлі. Прыгадаем хаця б той момант, калі падчас аб’яўлення Пан Езус праз Фаўстыну абяцае людзям (душам), якія вялікія ласкі яны атрымаюць: “Скажы, дачка мая, што Я – сама Любоў і Міласэрнасць. Калі душа набліжаецца да Мяне з даверам, Я напаўняю яе такой веліччу ласкі, што сама ў сабе яна не можа яе змясціць, а выпраменьвае на іншыя душы” (фрагмент “Дзённіка”).

Сённяшняму свету неабходна выпраменьванне Міласэрнасці на іншыя душы. Перыяд Адвэнту з’яўляецца менавіта такім часам, калі мы можам больш актыўна ўключыцца ў гэтую вялікую справу Міласэрнасці. Трэба пачаць з самога сябе: малітва, споведзь, добрае слова і прыклад. Варта таксама “заражаць” такой паставай іншых. Праз усмешку, добрае слова, а таксама добрыя ўчынкі, асабліва ў адрас тых, каму цяпер неабходна дапамога, мы можам многае зрабіць у гэтым свеце. Сённяшняму свету неабходны такія адвэнтавыя апосталы Міласэрнасці, як, напрыклад, св. Фаўстына, св. Ян Павел ІІ, папа Францішак. Я лічу, што варта перажыць гэты Адвэнт, адчуваючы Міласэрнасць Хрыста, які народзіц-ца ў Бэтлееме, а таксама раздзяляючы гэтую Міласэрнасць з іншымі. Міласэрную любоў Бога да чалавека мы пазнаём толькі дзякуючы Аб’яўленню. Гэта сам Бог ужо з самых першых старонак Святога Пісання расказвае пра сваю Міласэрнасць. У наш час варта перадаваць гэтае пасланне далей.

Таму менавіта Адвэнт з’яўляецца добрым часам, каб стаць у праўдзе аб сабе і зразумець, што без Бога ўва мне толькі цемра, што на самой справе без Яго я нічога не магу. Усё, што я раблю добрае, з’яўляецца Яго дарам, Яго дзейнасцю ўва мне. Абраз Езуса Міласэрнага – гэта выдатная ілюстрацыя майго сэрца. Калі забраць Езуса з абраза, застанецца толькі цёмны фон. Езус – святло. Без Яго ўва мне толькі нішто, пустата.

**Давайце паспрабуем не затрымлівацца на парозе Дзвярэй Міласэрнасці, а пайсці далей праз чаканне сустрэчы з Панам ажно да Крыжа Хрыста. Міласэрнасць Адвэнту няхай уратуе нам жыццё тут, на зямлі, каб яно мела сэнс, каб было для нас зразумелым, а Хрыстос блаславіць.**

# Пеляса

Знаёмімся з нашымі касцёламі

ДЭКАНАТ Радунь

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***



*Знешні выгляд святыні*

Парафіяльны касцёл узгадваецца тут як ужо дзеючы ў складзе Лідскага дэканата ў сярэдзіне XVI ст. (заснаваны ў 1553 г.). Магчыма, гэтая святыня знікла падчас “крывавага патопу” 1654–1667 гг. ці была скасавана, паколькі адзначалася як “найбяднейшая”. Па некаторых звестках, да адраджэння самастойнай парафіі тут дзейнічала капліца ад вавёрскай парафіі.

Адраджэнне парафіі адбылося толькі ў 1917 г., калі тут быў пабудаваны драўляны касцёл, асвечаны пад тытулам св. папы Лінуса. У 1935 г. на месцы драўлянага ўзнёсся ўжо каменны касцёл, і 23 верасня таго ж года яго пад гістарычным тытулам асвяціў кс. прэлат Беляўскас. Фундатарам святыні стаў кс. Будрэцкіс, а будаўніцтвам кіраваў кс. Туцінас.

Касцёл пабудавалі з бутавага каменю і атынкаванай цэглы ў даволі эклектычным стылі з выкарыстаннем стылізаваных форм готыкі. Ён уяўляе сабою аднавежавы зальны храм з паўкруглай апсідай з дзвюма сакрыстыямі. Галоўны фасад, фланкаваны двума атынкаванымі пінаклямі, завершаны магутнай чацверыковай званіцай, накрытай шатровым дахам з такой самай вежачкай.

Інтэр’ер, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках з распалубкамі над вокнамі, упрыгожваюць тры алтары: галоўны – з разьбяным Укрыжаваннем, левы бакавы – Маці Божай Вастрабрамскай, правы – св. Казіміра, аднак пакуль што яны аформлены як часовыя. Над уваходам зроблены арганныя хоры.

Перад Другой сусветнай вайной колькасць вернікаў пеляскай парафіі перавышала 2000 чалавек. Тым не менш, у 1956 г. савецкія ўлады зачынілі касцёл і прыстасавалі яго пад збожжасховішча, сцягнуўшы купал вежы трактарамі.

Толькі ў 1989 г., дзякуючы намаганням Марыі Круапенэ, Ізідару Шымялёнісу і інш., будынак святыні вярнулі парафіянам. Пакуль ішла рэстаўрацыя, вернікі збіраліся ў капліцы, пабудаванай у “прыбалтыйскім стылі” каля парафіяльных могілак – гэта двухсхільная драўляная “палатка” са складанымі вокнамі-вітражамі. А 23 верасня таго ж года арцыбіскуп Юліус Сцепанавічус асвяціў адбудаваны касцёл. Перад святыняй усталявана цікавая драўляная разьбяная кампазіцыя з Укрыжаваннем у “літоўскім” стылі. Дарэчы, Пеляса – літоўскі асяродак у Беларусі. Побач з касцёлам дзейнічае літоўскі культурны цэнтр.



*Галоўны алтар*

# У катэдральнай базіліцы адкрыты адрэстаўраваны алтар

Больш за паўтары гады цягнуліся рэстаўрацыйныя работы пад кіраўніцтвам майстроў з Беларусі і Польшчы. За карпатлівым заняткам лекары даўніны пасціралі пазногці.

“Я пайду а першай гадзіне ночы – яны залоцяць, – успамінае пробашч парафіі ксёндз Ян Кучынскі. – Прыходжу на Імшу раніцай – яны ўсё яшчэ залоцяць”.

Праведзена каласальная праца! Алтар з 300-гадовай гісторыяй (ён знаходзіцца наперадзе паміж цэнтральнай і левай бакавой навамі) цалкам разабралі, аднавілі пашкоджаныя драўляныя часткі і зноў пакрылі іх пазалотай, як гэта было ў першапачатковым варыянце.

“Мы нічога новага не прыдумвалі, – закцэнтаваў увагу вернікаў ксёндз Ян Кучынскі. – Толькі аднавілі тое, што было знішчана ў мінулым стагоддзі масляной фарбай. Адзінае, што было зменена, гэта колер. Першапачаткова алтар быў чырвона-карычневы, а рэстаўраваўся пад зялёны. У такім колеры ён больш гарманічна спалучаецца з убраннем касцёла. Уся праца палягае на тым, каб перадаць духоўную спадчыну наступным пакаленням...”.

Пробашч таксама заўважыў, што гэта быў самы цяжкі ў рэстаўрацыі алтар (з ужо трох адноўленых – заўв. аўт.). Менавіта ад яго залежала, як будуць выглядаць астатнія сем, што чакаюць сваёй чаргі.

Напрыканцы Імшы пробашч падзякаваў усім, хто прычыніўся да аднаўлення алтара матэрыяльна і духоўна. Ахвярадаўцы і майстры былі ўшанаваны памятнымі дыпломамі. Многія з іх аказаліся вельмі сціплымі людзьмі і нават пажадалі, каб іх прозвішчы не агучвалі.

Ад імя ўсіх прысутных пробашчу парафіі ксяндзу Яну Кучынскаму падзякаваў ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч. Пасля ўдзеленага іерархам пастарскага благаслаўлення з канцэртам выступіў хор Гродзенскай дыяцэзіі “Cantate Domino”.



Падчас урачыстага асвячэння алтара Святой Тройцы

***Ва ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету – 22 лістапада – у гродзенскім катэдральным касцёле святога Францішка Ксаверыя быў адкрыты алтар Святой Тройцы. Падчас нядзельнай Імшы алтар нанова асвяціў ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч.***



Алтар багата аздоблены, на ім прысутнічаюць шматлікія фігуры святых

### Даведка

**Алтар Святой Тройцы складаецца з двух ярусаў. Уверсе па цэнтры знаходзіцца скульптура Уваскрослага Хрыста. Яна найменшая па памерах, але самая даўняя. Рэстаўратары прыйшлі да высновы, што фігура старэйшая за касцёл. Мяркуецца, што яна была перанесена ў катэдру з Фары Вітаўта.**

**Па абодва бакі фігуры Езуса знаходзяцца скульптуры святога Яна Хрысціцеля (справа) і святога Яна Евангеліста (злева). Ніжэй – скульптуры святых Пятра (злева) і Паўла (справа). У цэнтры размяшчаецца абраз, на якім святы апостал Пётр ацаляе рымскага салдата.**

**У ніжнім ярусе знаходзяцца скульптуры святых Алаізія Ганзагі, Францішка Асізскага, Дамініка і Ісідора (злева направа). У цэнтры размешчаны абраз Святой Тройцы, а ніжэй – табернакулюм са скульптурай Езуса, апранутай па кармеліцкай традыцыі. Мяркуецца, што фігура была прынесена ў катэдру з касцёла кармелітаў, які існаваў у горадзе да пачатку XX стагоддзя.**

***Ангеліна Пакачайла***




# Бог – цярплівы Айцец, які выхоўвае да святасці



*Сёння сваю гісторыю распавядае айцец Казімір Енджэйчак з Супольнасці Місіянераў Аблатаў Марыі Беззаганнай.*

### Малым дзіцём бавіўся “ў ксяндза”

Айцец Казімір паходзіць з Познаньскай архідыяцэзіі ў Польшчы з сям’і рабочых. Старэйшы з чатырох дзяцей. Быў ахрышчаны ў Кэмблаве. Першую св. Камунію прыняў ва ўзросце 8 гадоў у Бніне.

*“Я адчуў вялікі супакой і радасць ад таго, што Пан Езус прыйшоў у маё сэрца. Пасля абеду ў суботу, адразу ж пасля споведзі, я вярнуўся дадому і пайшоў спаць, каб ужо не зграшыць перад прыняццем Езуса ў святой Камуніі. Ва ўзросце 12 гадоў з поўнай свядомасцю я прыняў сакрамант канфірмацыі, які пакінуў моцны адбітак у маёй душы. Я пачаў думаць аб прысвячэнні жыцця Богу”.*

У Бніне хлопец хадзіў у школу. Кожную нядзелю з усёй сям’ёй прымаў удзел у святой Імшы.

*“Бацькі ўспамінаюць, што ў дашкольным узросце я любіў бавіцца «у ксяндза», асабліва пасля нядзельнай святой Імшы. Я надзяваў доўгі шалік і вітаў усіх словамі: «Пан з вамі»”.*

### Перад цудоўным абразом Маці Божай Чанстахоўскай

Пакліканне да святарства хлопец адчуў ва ўзросце 13-14 гадоў пад уплывам прыкладу ксяндза вікарыя Андрэя, які імпанаваў яму стылем быцця пры алтары, на катэхезе, у размове і штодзённым жыцці. Таксама і ксёндз пробашч Рамуальд быў прыкладам сталасці ў веры і клопату аб збаўленні даручаных яму душ.

Пакліканне да манаскага жыцця нарадзілася ў 1975 годзе, калі хлопец вучыўся ў ліцэі ў Курніку, падчас перэгрынацыйнай місіі перад прыбыццём у парафію копіі цудатворнага абраза Маці Божай Чанстахоўскай. Тыднёвыя місіі праводзілі айцы аблаты Марыі Беззаганнай.

*“Узнёслая рэлігійная атмасфера, доўгія чэргі ў канфесіяналы, напоўненыя глыбокім духоўным зместам навукі і канферэнцыі... Я перажыў незвычайную споведзь, падчас якой пачуў пытанне: ці хочаш стаць святаром? Гэтае пытанне не засталося ў маім сэрцы без адказу. У апошні дзень місій, які быў днём наведвання цудоўнага абраза, ад імя моладзі я вітаў Маці Божую ў Яе выяве, што аказала на мяне вельмі вялікае ўражанне. З таго часу і дагэтуль я штодзённа адгаворваю акт ахвяравання сябе Маці Божай: «Маці Найсвяцейшая Беззаганная Марыя, Табе прысвячаю сваё цела і душу»”.*

### Пад сцягам Беззаганнай

У другім класе ліцэя ўзнікалі сумненні адносна паклікання. Тады ў харцэрскім лагеры хлопец сутыкнуўся з дэмаралізаванай моладдзю і, парадаксальна, гэта ажывіла жаданне быць святаром, каб ратаваць маладых людзей. Ён пачаў штодзённа чытаць Евангелле і сустрэўся з жывой асобай Езуса.

*“Я захацеў прысвяціць сваё жыццё Богу пад сцягам Беззаганнай і вырашыў рэалізаваць сваё пакліканне ў манаскай супольнасці, што носіць Яе тытул – «oblatus», што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае «прысвечаны», «ахвяраваны». Маё пакліканне ўзмацніў выбар Папы святога Яна Паўла II: у 1978 годзе ён «паставіў» на адданасць Маці Божай”.*

8 верасня 1979 года хлопец уступіў у навіцыят Аблатаў Марыі Беззаганнай на Святым Крыжы, дзе знаходзяцца рэліквіі Крыжа Пана Езуса. Дакладна праз год склаў першыя манаскія абяцанні і пачаў вывучаць філасофію ў Вышэйшай духоўнай семінарыі Аблатаў у Обры. Пазней вывучаў тэалогію ў Грэгарыянскім універсітэце ў Рыме.

*“Я знаходзіўся ў Міжнародным схаластыкаце пры генеральным доме нашай супольнасці. Там я пазнаёміўся з многімі выдатнымі братамі аблатамі з усяго свету. Маім сябрам і духоўным кіраўніком у гэты перыяд быў айцец Ёс Янсэнс SJ, якому я абавязаны ўзмацненнем свайго манаскага паклікання. Я меў магчымасць часта ўдзельнічаць у набажэнствах, якія праводзіў святы Ян Павел II. Некалькі сустрэч са Святым Айцом глыбока запісаліся ў маім сэрцы, што немагчыма выразіць словамі”.*

Вечныя манаскія абяцанні склаў у Обры 8 верасня 1985 года.

### У душпастарскай і выхаваўчай паслузе

Пасля гадавога пастаральнага стажу у Міланоўку каля Варшавы айца Казіміра пасвяцілі да паслугі дыяканату. Ён быў накіраваны як выхавацель у Ніжэйшую духоўную семінарыю ў Маркавіцах. На свята Брата Альберта Хмялёўскага 17 чэрвеня 1987 года ў Обры прыняў сакрамант святарства.

Першай паслугай была выхаваўчая праца з моладдзю. Таму айцец Казімір пачаў вывучаць педагогіку на апякунска-выхаваўчым аддзяленні ў Торуні, а праз два гады скончыў навучанне ў Катавіцах.

*“У 1991 годзе я даведаўся, што мой знаёмы пробашч ксёндз Аляксандр Кашкевіч быў прызначаны біскупам новаўтворанай дыяцэзіі ў Гродне. Падчас сустрэчы з ім у Вільні я спытаўся, ці прыдалася б мая дапамога ў дыяцэзіі, а таксама як выкладчыка педагогікі ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Пасля пазітыўнага адказу я прыбыў у горад над Нёманам у 1992 годзе на свята Маці Божай Чанстахоўскай”.*

Спачатку служыў у адамавіцкай парафіі, затым у струбніцкай. Цяпер служыць у Селіванаўцах у парафіі Перамянення Пана.

**“Год кансэкраванага жыцця 2015 – гэта час вялікіх юбілеяў са дня нараджэння маіх любімых святых: 500-годдзе святой Тэрэзы Авільскай, 500-годдзе святога Філіпа Нэры і 200-годдзе святога Яна Боско – галоўных педагогаў, якія натхняюць мяне ў душпастарскай і выхаваўчай паслузе. Я вельмі ўдзячны за гэта Пану Богу. Бог для мяне – гэта цярплівы Айцец, які выхоўвае да святасці. Святы Філіп Нэры калісьці добра сказаў: «Хто хоча чагосьці іншага, а не Хрыста, той не ведае, чаго хоча; хто прагне чагосьці іншага, а не Хрыста, не ведае, саго прагне; хто працуе, але не з-за Хрыста, той не ведае, што робіць»”.**

***Ангеліна Пакачайла***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Калі Езус аб’явіў сябе як Кароль? У падзеі Крыжа! Той, хто ўзіраецца ў Крыж Хрыста, павінен заўважыць дзівосную бескарыслівасць у любові. Хтосьці з вас можа сказаць: “Але, ойча, гэта было падзенне!”. Менавіта ў падзенні па прычыне граху – грэх з’яўляецца падзеннем – у падзенні, выкліканым людскімі амбіцыямі, менавіта там ёсць трыумф Крыжа, там бескарыслівасць любові. У падзенні Крыжа бачна любоў – тая любоў, якая з’яўляецца бескарыслівай, якую дае нам Езус. Для хрысціяніна размовы аб моцы і сіле азначаюць зварот да моцы Крыжа і да сілы Езусавай любові: любові, якая застаецца моцнай і некранутай нават калі яе адкідваюць, якая разглядаецца як здзяйсненне пражытага жыцця, як поўная ахвяра з сябе на карысць чалавецтва.*

*Можна сказаць: “Езус аддаў жыццё за свет”, але яшчэ прыгажэй сказаць: “Ён аддаў сваё жыццё за мяне”, каб магчы збавіць кожнага з нас ад нашых грахоў.*

*Моцай Каралеўства Езуса з’яўляецца любоў, таму Яго каралеўскасць не прыгнятае, але вызваляе нас ад нашых слабасцей і галечы, заахвочваючы накіроўвацца сцежкамі дабрыні, паяднання і прабачэння. Хрыстос – Кароль, які над намі не пануе, не ўспрымае нас як падданых, але ўзносіць нас да сваёй годнасці. Ён учыніў так, што мы з Ім валадарым, таму што, як кажа Апакаліпсіс: “Учыніў нас валадарствам і святарамі для Бога і Айца свайго” (1, 6).*

*“Анёл Панскі” са Святым Айцом, 22.11.2015*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Прыгажосць нашага жыцця ў тым, што яно прапануе нам шмат магчымасцей. Мы атрымалі ад Бога дар свабоды і можам выбіраць, што чыніць, у тым ліку падпарадкоўвацца Богу ці не. Выбіраючы Бога, мы рыхтуем сябе да розных выпрабаванняў, каб мець сілы ім супрацьстаяць. Хрыстос папярэджвае: чувайце, каб не паддацца спакусе.*

*Часам мы адчуваем сябе моцнымі, як сярэднявечныя замкі з вельмі высокімі каменнымі сценамі. Але і ў такіх замкаў ёсць слабыя месцы – гэта драўляныя дзверы, праз якія вораг можа прабрацца. Кожны з нас мае ў сабе нешта падобнае на гэтыя драўляныя дзверы. Гэта нашы слабасці, якія мы не заўсёды ўсведамляем. Таму адной з найбольш важных задач з’яўляецца пазнанне самога сябе. Калі мы сябе ведаем, то можам пазбегнуць складаных сітуацый.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы ў мінскай парафіі св. Яна Хрысціцеля*




◆ *Хваля салідарнасці пракацілася па ўсім свеце ў сувязі з тэрактамі ў Парыжы, якія адбыліся ўвечары 13 лістапада. У выніку нападаў і штурму тэрарыстаў групоўкі "Ісламская дзяржава" загінула больш за 150 чалавек, з іх 112 – у канцэртнай зале тэатра Батаклан. У многіх краінах тысячы людзей прынеслі кветкі і лампады да пасольстваў Францыі, а знакавыя будынкі па ўсім свеце асвятлілі колерамі французскага сцяга – у прыватнасці, брытанскі стадыён "Уэмблі", будынак новага Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку, статую Хрыста-Збавіцеля ў Рыа-дэ-Жанейра. У той жа час Эйфелева вежа – адзін з сімвалаў Францыі – пагрузілася ў цемру.*

◆ *Падчас аднадзённага пастарскага візіту ў Фларэнцыю папа Францішак паабедаў у сталовай дабрачыннай арганізацыі "Карытас". Святы Айцец пажадаў, каб абед быў такім, як заўсёды. Валанцёры прыгатавалі суп з гародніны з хлебам, агароднінное рагу з мясам, фруктовы салат і піровжныя. Падалі белае і чырвонае віно, а таксама ваду з-пад крана. Абед пачаўся з малітвы. Разам з 60 убогімі Папа еў з пластыкавага посуду. Святы Айцец жартаваў і ахвотна пазіраваў для фатаграфій.*

◆ *Асобнай кнігай выйшлі лісты дзяцей да папы Францішка. Падборку склалі лісты, малюнкі і паведамленні ад хлопчыкаў і дзяўчынак з усяго свету. Пантыфік распарадзіўся, каб сродкі, атрыманыя з рэалізацыі, былі перададзены на патрэбы дзяцей, якія атрымліваюць дапамогу ў Ватыканскім педыятрычным дыспансеры святой Марты. "Дзеці такія: яны смяюцца і плачуць. Дзве рэчы, якія ў нас, дарослых, часта заблакаваныя, мы страцілі гэтую здольнасць", – гэтымі словамі Святы Айцец пачаў уступ да кнігі пад назвай "Маленькія лісты да папы Францішка".*

◆ *Пераможцам у амерыканскім тэлевізійным кулінарным шоу стала сястра Аліцыя Торэс. Манахіня працуе на кухні для бедных у адным з раёнаў Чыкага. Менавіта там яна мае магчымасць эксперыментаваць і ўдасканальваць свае кулінарныя здольнасці. Каб атрымаць перамогу, сястра выйграла ў трох раўндах: прыгатавала дэсерт, лёгкую закуску і асноўную страву. За перамогу ў рэаліці-шоу яна атрымала 10 000 даляраў, якія плануе прызначыць на развіццё кухні для бедных. "Я раблю гэта дзеля Хрыста. Я хачу паказаць, наколькі «поўным» можа быць жыццё, прысвечанае Богу", – распавядае сястра пра мэту ўдзелу ў шоу.*

◆ *Італьянскія біскупы падчас Года міласэрнасці збіраюцца дапамагчы сем'ям, якім адключылі камунальныя паслугі за нявыплату. Кіраўнік Бюро пастарскай апекі над сем'ямі Канферэнцыі біскупаў Італіі айцец Паола Джэнці адзначыў, што яны занепакоены ростам колькасці сем'яў, якія з цяжкасцю зводзяць канцы з канцамі. "Касцёл заўсёды заклікаў дараваць даўгі, цяпер хочацца зрабіць нешта канкрэтнае", – сказаў святар. У бліжэйшы час ён хоча звярнуцца да рымскіх кампаній, якія прадастаўляюць камунальныя паслугі, з просьбай аб спісанні даўгоў з людзей, якія жывуць у нястачы. Юбілейны Год міласэрнасці пачнецца 8 снежня 2015 года і завершыцца 20 лістапада 2016 года.*

*credo-ua.org, katolik-gomel.by*

***Ангеліна Пакачайла***

# Бп Аляксандр Кашкевіч:

## Будучыня нашай семінарыі залежыць ад будучыні пакліканняў у нашым Касцёле

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"

● *працяг са с. 1*

**КСЁНДЗ БІСКУП, КАЛІ ВЫ АДКРЫЛІ Ў САБЕ ПАКЛІКАННЕ І ЯКІМ ЧЫНАМ?**

Святы Айцец Ян Павел II назваў свае ўспаміны і разважанні на тэму паклікання вельмі красамоўна: "Дар і Таямніца". Гэтая назва паказвае, што пакліканне з'яўляецца ў пэўным сэнсе таямніцай нават для самога пакліканага. Гэтую таямніцу паклікання мы адкрываем на працягу ўсяго свайго жыцця: думаем пра яе, разважаем, а яна ўсё роўна застаецца для нас таямніцай. Маё пакліканне выспявала паступова з ранняга дзяцінства. Магу сказаць, што, колькі сябе памятаю, я прагнуў быць ксяндзом. З вялікай удзячнасцю і сентыментам думаю пра бацькоў, родных, пра цудоўную атмасферу роднага дома, прасякнутую духам малітвы, традыцыі, простай і адначасова глыбокай і сапраўднай набожнасцю. Я заўсёды ахвотна хадзіў у касцёл, з захапленнем удзельнічаў у набажэнствах, любіў асабістую малітву. У значнай ступені я абавязаны сваім пакліканнем таксама ксяндзам, якія служылі ў маёй роднай парафіі. Звычайна бывае так, што малады чалавек шукае аўтарытэтаў, яму неабходны асабовыя прыклады, жыццёвыя арыенціры. Ксяндзы, якіх я сустрэў у маладосці, змаглі зрабіць на мяне ўражанне (у добрым і глыбокім значэнні гэтых слоў) сваёй паставай, набожнасцю, культурай, эрудыцыяй, стылем жыцця, што без сумненняў паўплывала на фарміраванне майго паклікання. Спачатку гэта былі, канешне, толькі дзіцячыя мары, потым яны станавіліся ўсё больш свядомымі, сталымі і з часам пераўтварыліся ў рашучую пастанову пайсці ў семінарыю.

**ЦІ ПАМЯТАЕЦЕ ВЫ СВАЮ СЕМІНАРЫЮ? ШТО НАЙБОЛЬШ ЗАПОМНІЛАСЯ З ЧАСОЎ НАВУЧАННЯ?**

Я лічу, што семінарыя – гэта такое месца і такі досвед, які адкладваецца ў памяці на ўсё жыццё. Для кожнага клерыка семінарыйныя гады – гэта перш за ўсё час падрыхтоўкі да прыняцця самага вялікага дару, якім з'яўляецца святарства. Усведамленне таго, што з кожным годам, месяцам, днём гэтая мэта становіцца ўсё бліжэй, жаданне як мага лепш падрыхтавацца да заданняў, якія чакаюць цябе зусім не ў далёкай будучыні, пачуццё ўласнай адказнасці перад Богам і Касцёлам, радасць ад прыняцця чарговых паслуг у дарозе да пасвячэння – усё гэта вельмі мабілізуе і застаецца ў памяці назаўсёды. Я вельмі часта вяртаюся думкамі ў семінарыю ў Коўне. З удзячнасцю думаю пра выхавацеляў і выкладчыкаў, якія не толькі перадавалі нам веды, не толькі дзяліліся сваім багатым жыццёвым вопытам, але і давалі цудоўны асабісты прыклад святарства і чалавечнасці. Я таксама вельмі ўдзячны ксяндзу, у парафіі якога я праводзіў летнія канікулы. Яму была ўласціва аўтэнтычная набожнасць, высокая асабістая культура, вялікая жыццёвая мудрасць, сапраўдная любоў да Касцёла. Побыт у яго парафіі быў гарманічным дапаўненнем семінарыйнай фармацыі: мы разам маліліся, разважалі, размаўлялі на духоўныя тэмы, з вялікай тактоўнасцю і павагай ксёндз пробашч знаёміў мяне са спецыфікай парафіяльнага душпастарства. Пасля кожнага побыту ў парафіі я вяртаўся ў семінарыю духоўна ўзбагачаны і яшчэ больш упэўнены ў пакліканні. Да сённяшняга дня я вельмі часта ўзгадваю, безумоўна, братоў клерыкаў, з якімі мы дзялілі нашу семінарыйную штодзённасць. А калі мы сустракаемся з даўнімі сябрамі з семінарыі, вельмі любім дзяліцца ўспамінамі з клерыцкіх гадоў, асабліва аб вясёлых, забаўных выпадках, якіх у нашай Альма-матэр таксама хапала.

**ВАША ЭКСЦЭЛЕНЦЫЯ, ВЫ ЦЯПЕР АПЕКУЕЦЕСЯ СЕМІНАРЫЯЙ У ГРОДНЕ. ЧЫМ ДЛЯ ВАС З'ЯЎЛЯЕЦЦА СЕМІНАРЫЯ?**

Апека над семінарыяй – гэта штосьці відавочнае для кожнага біскупа, гэта, згодна з кананічным правам, нават яго абавязак. Я ўсведамляю, што сённяшнія клерыкі – гэта будучыя святары, маі супрацоўнікі, якія будуць несці паслугу ў нашым партыкулярным Касцёле на карысць вернага люду. Чым лепш яны выкарыстаюць час семінарыйнай фармацыі, тым лепшымі будуць святарамі, тым больш плённым будзе іх служэнне ў Касцёле, тым больш яны змогуць даць Божаму люду. Таму пры розных нагодах я прыгадваю клерыкам пра адказнасць, якая ўжо цяпер на іх ускладзена – адказнасць за іх будучае святарства, заахвочваю да таго, каб яны як мага лепш выкарысталі час семінарыйнага навучання, каб з удзячнасцю і адкрытасцю прымалі ўсё, што семінарыя ім прапануе ў межах усебаковай фармацыі, бо гэта безумоўна будзе ім неабходна ў будучыні як святарам.

**КАЖУЦЬ, ШТО СЕМІНАРЫЯ – ГЭТА СЭРЦА ДЫЯЦЭЗІІ. ЦІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ГРОДЗЕНСКАЯ ВДС ТАКІМ СЭРЦАМ, І ЯК, НА ВАШУ ДУМКУ, ЯНО ПУЛЬСУЕ?**

Мне вельмі падабаецца гэты тэрмін – "сэрца дыяцэзіі". Ён незвычайна прыгожы і трапны. Падобна як сэрца ў арганізме размяркоўвае кроў і забяспечвае жыццё, так і семінарыя, рыхтуючы маладых людзей да святарства, забяспечвае жыццё дыяцэзіі. Нашы вернікі старэйшага і сярэдняга пакалення добра памятаюць часы, калі не хапала святароў, калі ў большасці парафій не было душпастара. Што з таго, што быў касцёл, калі ў ім не было святара? На шчасце, сёння мы знаходзімся ў непараўнальна лепшай сітуацыі. За 25 гадоў свайго існавання наша семінарыя выпусціла больш за 200 ксяндзоў, якія працуюць не толькі ў нашай дыяцэзіі, але і ў іншых дыяцэзіях Беларусі, а таксама за яе межамі. Кожны год некалькі выпускнікоў семінарыі прымаюць святарскае пасвячэнне. На сённяшні дзень у семінарыі рыхтуюцца 33 кандыдаты да святарства. У бягучым 2015 годзе на першы год навучання было прынята 6 алюмнаў. У нас поўны штат выкладчыкаў і выхавацеляў, добра ўкамплектаваная бібліятэка, адпаведныя жыллёвыя ўмовы... На маю думку, можна смела сказаць, што сэрца Гродзенскай дыяцэзіі пульсуе нармальным, здаровым рытмам.


*Падчас урачыстасцей 25-годдзя заснавання ВДС у Гродне*

**УДЗЯЛЯЮЧЫ ЧАРГОВЫЯ ПАСВЯЧЭННІ ДЫЯКАНАТУ І ПРЭЗБІТЭРАТУ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ, ШТО ВЫ ДУМАЕЦЕ ПРА МАЛАДЫХ СВЯТАРОЎ І ДЫЯКАНАЎ? ЦІ ДОБРА ЯНЫ ПАДРЫХТАВАНЫ ДЛЯ ПРАЦЫ Ў ДЫЯЦЭЗІІ?**

Перш за ўсё, кожныя чарговыя святарскія ці дыяканскія пасвячэнні – гэта вялікая радасць для мяне, бо прыбывае работнікаў у вінаградніку Пана. І хоць наша дыяцэзія цяпер не адчувае такога вострага недахопу святароў, як было яшчэ некалькі гадоў таму, гэта зусім не азначае, што нам больш не патрэбны святары. Кожны наступны святар – гэта большы патэнцыял нашага Касцёла, большыя магчымасці службы Божаму люду, большы шанс дайсці з пасланнем Евангелля да тых, хто яшчэ не сустрэў Езуса ў сваім жыцці. У маладых святароў і дыяканаў я бачу шмат стараннасці, аўтэнтычнага энтузіязму, шчырага жадання абвяшчаць Хрыста словам і ўчынкам. Гэта вельмі важна як задатак іх плённай, аддадзенай паслугі ў Касцёле. Калі казаць пра іх падрыхтоўку да працы ў дыяцэзіі, магу яе ацаніць як добрую: і з тэарэтычнага боку, і з практычнага. У святарскай паслузе важную ролю адыгрывае таксама асабісты вопыт, але гэтаму, канешне, не ўдасца навучыць у семінарыі – ён прыходзіць з часам, і гэта заданне на ўсё жыццё.

**ВАША ЭКСЦЭЛЕНЦЫЯ, ШТО СЁННЯ, НА ВАШУ ДУМКУ, ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ВЫХАВАЦЬ БУДУЧАГА СВЯТАРА?**

Выхаванне – працэс надзвычай складаны і мнагамерны. У афіцыйных дакументах Касцёла, прысвечаных праблематыцы падрыхтоўкі да святарства, ідзе гаворка пра чатыры аспекты фармацыі кандыдатаў: людскі, духоўны, інтэлектуальны і пастаральны. У семінарыйным выхаванні бяруцца пад увагу ўсе гэтыя аспекты, бо інакш святар, які пакідае семінарыю, проста не быў бы здольны добра і адказна рэалізаваць сваю місію ў Касцёле. Не трэба, аднак, забывацца, што ў выхаваўчым працэсе клерыка ўдзельнічае не толькі кола выхавацеляў і выкладчыкаў семінарыі. Іншыя людзі таксама аказваюць уплыў на фарміраванне асобы будучага святара: бацькі, родныя, сябры, калегі, святары па-за семінарыяй... Перш за ўсё, трэба памятаць, што семінарыйнае выхаванне з'яўляецца ў вялікай ступені самавыхаваннем, гэта значыць свядомым і дабравольным супрацоўніцтвам алюмна з асобамі, адказнымі за яго фармацыю. Урэшце, ад кожнага кандыдата больш за ўсё залежыць, наколькі ён адкрыецца і выкарыстае тыя магчымасці, якія яму даюць гады побыту ў семінарыі.

**ЯКОЕ ЗНАЧЭННЕ МАЕ СЕМІНАРЫЯ Ў ДЫЯЦЭЗІІ?**

Семінарыя – гэта вельмі важная ўстанова, паколькі яна рыхтуе святароў – пастараў, праваднікоў у веры, настаўнікаў Божага люду. Невыпадкова кананічнае права наказвае, каб біскупы – там, дзе гэта магчыма, – паклапаціліся аб стварэнні духоўных семінарый ва ўласных дыяцэзіях. У дыяцэзіяльных семінарыях ужо на этапе фармацыі да святарства будучыя ксяндзы бліжэй знаёмяцца з рэчаіснасцю ўласнага мясцовага Касцёла, яго спецыфікай, душпастарскімі праблемамі, яшчэ больш інтэгруюцца з дыяцэзіяльнай супольнасцю, да якой належаць і ў якой пасля атрымання пасвячэння будуць выконваць святарскую паслугу. Такім чынам ствараецца таксама пэўная традыцыя, бесперапыннасць, спецыфічная сувязь паміж ксяндзамі рознага ўзросту і з розным святарскім "стажам". Усё гэта з'яўляецца вялікім багаццем мясцовага Касцёла і пазітыўна ўплывае на якасць святарскай паслугі. Канешне, не ўсе дыяцэзіі маюць магчымасць мець уласныя семінарыі. У Касцёле існуюць таксама іншыя рашэнні, напрыклад, міждыяцэзіяльныя семінарыі, рэгіянальныя, місійныя. Аднак не выклікае сумненняў, што лепш за ўсё, калі адукацыя будучых святароў адбываецца ва ўласнай дыяцэзіі.

**10 ЛІСТАПАДА 2015 ГОДА КСЁНДЗ БІСКУП АЛЯКСАНДР ЯШЭЎСКІ ВЫКАЗАЎСЯ ДЛЯ "КАТАЛІЦКАГА ВЕСНІКА" (ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ), ШТО "Ў КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫЯХ БЕЛАРУСІ

**ЧАКАЮЦЦА ПЕРАМЕНЫ І МАДЫФІКАЦЫЯ". ПРА ЯКІЯ ПЕРАМЕНЫ, НА ВАШУ ДУМКУ, ІДЗЕ ГАВОРКА?**

Я не хацеў бы спасылацца на выказванне ксяндза біскупа Аляксандра Яшэўскага, паколькі я не ведаю, якія канкрэтна перамены ён меў на ўвазе. На маю думку, кожная духоўная семінарыя ёсць і павінна быць дынамічнай установай, здольнай хутка рэагаваць на змены, што адбываюцца ў свеце і ў грамадстве, каб святары, пакідаючы сцены Альма-матэр, былі адпаведным чынам падрыхтаваны да душпастарскіх праблем, якія іх чакаюць. Таму перад кожнай семінарыяй стаіць вельмі важная задача пастаяннага ўдасканальвання ўласнай фармацыйнай праграмы ва ўсіх чатырох сферах, пра якія я ўжо прыгадваў. Я ўпэўнены, што дзякуючы супольнаму высілку ксяндза рэктара, кола выкладчыкаў і выхавацеляў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі такое ўдасканальванне фармацыі будучых святароў адбываецца ў нас безупынна і мае эвалюцыйны характар.

**ЦІ БУДЗЕ ЗАЧЫНЕНА СЕМІНАРЫЯ Ў ГРОДНЕ? ЯКАЯ БУДУЧЫНЯ ЧАКАЕ НАШУ СЕМІНАРЫЮ?**

Асабіста я не бачу прычыны, па якой гродзенская семінарыя магла б быць зачынена. Наша дыяцэзія характарызуецца адносна высокай – як на сённяшні час – і ў меру стабільнай колькасцю пакліканняў да святарства. Маладыя людзі, якія чуюць голас паклікання і прагнуць пайсці за ім, выбіраючы дарогу святарскага жыцця, маюць магчымасць поўнай і ўсебаковай фармацыі ў нашай дыяцэзіі пад кіраўніцтвам кампетэнтных і вопытных выхавацеляў і выкладчыкаў. Таксама з матэрыяльнага боку семінарыя ў Гродне здольна забяспечыць ім добрыя бытавыя ўмовы. Таму, на маю думку, не існуе ніякіх рацыянальных перадумоў, каб Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя была зачынена ці радыкальна змяніла прынцыпы свайго функцыянавання. Што ж датычыцца будучыні, усё будзе залежаць ад колькасці пакліканняў. У многіх заходніх краінах біскупы былі вымушаны закрываць семінарыі з-за адсутнасці пакліканняў да святарства. Я спадзяюся, што такая сумная перспектыва не стане рэчаіснасцю ў нашай дыяцэзіі. Таму я таксама прашу ўсіх вернікаў, у тым ліку шаноўных Чытачоў "Слова Жыцця", аб малітве ў інтэнцыі пакліканняў. "Жніво сапраўды вялікае, ды работнікаў мала; таму прасіце Гаспадара жніва, каб работнікаў паслаў на жніво сваё" (Лк 10, 2), – гэтыя словы Езуса засёды будуць актуальнымі. Будучыня нашай семінарыі залежыць ад будучыні пакліканняў у нашым мясцовым Касцёле.

**ВАША ЭКСЦЭЛЕНЦЫЯ, ШТО ВЫ МОЖАЦЕ ПАЖАДАЦЬ НОВЫМ ДЫЯКАНАМ І СВЯТАРУ?**

Я паўтару тое, што казаў падчас урачыстасці пасвячэння: жадаю ім, каб былі вернымі, стараннымі, святымі святарамі, каб з самааддананасцю і запалам служылі людзям, да якіх яны будуць пасланыя, а таксама каб памяталі, што Езус Хрыстус засёды з імі. Няхай адчуваюць глыбока ў сваіх сэрцах любоў Хрыста, і тады яны змогуць несці гэтую любоў іншым.

*Дзякуй за размову.*

# "На вас разлічвае верны люд..."



*Кс. бп Аляксандр і кс. бп Юзаф з новымі працаўнікамі на ніве Пана*

працяг са с. 1

Пасля Евангелля кандыдатаў па імені заклікалі да пасвячэння. Кс. д-р Раман Рачко, рэктар семінарыі, прызнаў іх годнымі пасвячэння.

Звяртаючыся да сабраных вернікаў з гаміліяй, ксёндз рэктар адзначыў, што кандыдаты ў прысутнасці Хрыстовага Касцёла і самога Бога выразілі гатоўнасць прыняць пасвячэнне, каб даваючы Пану, служыць бліжнім. Гэтыя кандыдаты публічна выказалі сваё "Я": я гатовы многае змяніць у сваім жыцці, я гатовы многае пакінуць і поўнасцю аддаць сябе службе абвяшчэння Хрыстовага Евангелля, аддаць сябе для дабра і асвячэння людзей.

*"Мы жывём у свеце, які нясе небяспеку эгаізму, калі чалавек думае толькі пра сябе, і ў гэтым эгаізме чалавек не заўважае іншых людзей навокал, іх патрэб, іх праблем, а таксама іх радасцей. Працілегласцю, супрацьвагай эгаізму, гэтаму дэману заканапасці ў самім сабе, з'яўляюцца людзі, якія служаць Валадарству Хрыста. Гэтыя слугі – нашыя клерыкі і дыякан – павінны быць знакам для ўсіх, каму хтосьці патрэбны, хто кагосьці шукае",* – сказаў ксёндз доктар.

Звяртаючыся да кандыдатаў, рэктар ВДС падкрэсліў, што Касцёл глядзіць на іх з вялікай надзеяй, біскупы глядзяць на іх, як на Божы дар для ўсяго Касцёла. *"Вы – вялікі дар для людзей, асабліва ў неспакойныя часы, у якія нам давялося жыць. Вы ў прысутнасці кола дарагіх вашаму сэрцу вернікаў, перад вашымі бацькамі, сябрамі і перад усім Хрыстовым Касцёлам дэкларуеце, што па прыкладзе Хрыста, Добрага Пастыра, не будзеце выкарыстоўваць людзей для ўласнай карысці, а толькі прагнеце на працягу ўсяго свайго жыцця служыць людзям, кіруючыся іх карысцю і асвячэннем",* – адзначыў рэктар.

Таксама кс. д-р Раман працытаваў словы папы Францішка, які неаднаразова казаў: *"Не бойцеся ісці і несці Хрыста ў кожнае асяроддзе, ажно на перыферыі".*

*"Пра якія перыферыі гаворка? Ці толькі пра геаграфічныя? Ці павінны мы ўвесь час думаць пра тое, каб як мага далей паехаць у якія-небудзь невядомыя краіны з місіяй абвяшчэння Хрыста? Магчыма, часам так, але, можа, перыферыі – гэта месцы і людзі, дзе няма Бога. Трэба туды ісці, каб занесці Яго. Ёсць таксама экзістэнцыяльныя перыферыі, якія ахопліваюць розны досвед людскога жыцця, такі як матэрыяльная беднасць, духоўная ўбогасць, адзінота, хвароба, вязніца ці пакуты, абыякавасць, а часта і боль. Могуць быць таксама перыферыі ў тэалагічным сэнсе: гэта сітуацыі, дзе вернікі падвяргаюцца нападам тых, хто супраць Бога. І гаворка не ідзе толькі пра такія сітуацыі, калі на Касцёл накіраваны прамыя атакі, але, можа, пра такія, калі пад пагрозай знаходзіцца наша вера, надзея чалавека на збаўленне, на тое, што ў гэтым жыцці магчыма праражыць у адзінстве з Богам, застаючыся паслухмяным голасу Касцёла. І папа Францішак падказвае нам, што на гэтыя перыферыі Касцёл павінен ісці з Хрыстом",* – сказаў рэктар Гродзенскай ВДС.

Таксама кс. д-р Раман Рачко заахвоціў кандыдатаў, каб, стоячы перад алтаром у гэты адказны і важны момант іх жыцця, яны ўсвядомілі сабе праўду, што на іх разлічвае верны люд: тыя, каго яны ведаюць і любяць, і невядомыя, да якіх іх вядзе Святы Дух праз дэкрэт біскупа. *"Усе павінны пазнаць радасць адчування сябе любімым Богам, радасць збаўлення. Гэта дар, які нельга затрымаць для сябе, ім трэба дзяліцца",* – падкрэсліў святар.



*Найважнейшым момантам пасвячэння з'яўляецца знак накладання рук*

Пасля гаміліі кандыдаты, адказваючы на пытанні кс. б-па Аляксандра Кашкевіча, выразілі гатоўнасць прыняць абавязкі, якія вынікаюць з пасвячэння, і абяцалі яму пашану і паслухмянасць.

Затым вернікі даручылі Богу кандыдатаў, спяваючы Літанію да Усіх Святых. А кандыдаты на знак глыбокай пакоры перад Богам ляжалі крыжам.

Пасля ксёндз біскуп усклаў рукі на кандыдатаў, паўтараючы апостальскі жэст перадачы ўлады, і выцягнуўшы рукі прамовіў кансэкрацыйную малітву, заклікаючы Святога Духа, каб умацаваў іх у паслузе дыяканату і прэзбітэрату. Усе новапасвечаныя дыяканы атрымалі далматыкі і дакрануліся да Кнігі Евангелля, каб верылі і абвяшчалі тое, што будуць чытаць. У сваю чаргу навапасвечаны прэзбітэр атрымаў арнат, яго рукі былі намашчаны хрызмам і ён дакрануўся да віна і хлеба.

На заканчэнне ўрачыстасці кс. бп Аляксандр падзякаваў бацькам пасвечаных за працу выхавання, за жывое сведчанне веры. Ён таксама заахвоціў прысутных вернікаў маліцца ў інтэнцыі новых дыяканаў і святара, якія, падвяргаючыся многім небяспекам і спакусам, павінны абвяшчаць Слова Бога і набліжаць людзям Нябеснае Валадарства, паколькі да гэтага іх заклікаў сам Езус Хрыстус.

У сваю чаргу новыя святар і дыяканы, уручаючы кветкі, падзякавалі ўсім, хто значным чынам паспрыяў фармацыі на іх шляху да святарства.

***Кінга Красіцкая***

**З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ**

**ekai.pl**

***Музей просіць перадаваць памяткі з лагера***

***З такім заклікам звярнуўся Дзяржаўны музей Аўшвіц-Біркенау ў Асвенціме.***

*Пляцоўка прыгадвае, што Месца Памяці Аўшвіц – гэта не толькі вялікая тэрыторыя і аўтэнтычныя лагерныя блокі, баракі, вартавыя вежы, але таксама дзясяткі тысяч прадметаў з асаблівым характарам, вымоўнасцю і сімволікай.*

*Сярод навейшых дароў, перададзеных пляцоўцы, ёсць, між іншым, мастацкія творы, лісты з лагера, а таксама дробныя прадметы, якія належалі вязням.*




***Чаму Францішак такі?***

***27 лістапада на экраны кінатэатраў выходзіць першы на свеце мастацкі фільм пра папу Францішка, а менавіта пра шлях, які прывёў кс. Хорхе Марыя Берголія на папскі трон.***

*У фільме мы знаёмімся з фрагментамі біяграфіі Папы, пра якія ён сам успамінаў, расказваючы пра сваё пакліканне, а таксама зачараванасць, якую перажыў. Фільм узнік на аснове біяграфічнай кнігі "Папа Францішак – Жыццё і Рэвалюцыя" аўтарства Элізабеты Пікэ, вядомай журналісткі, блізкай сяброўкі Папы і карэспандэнткі ў Італіі і Ватыкане для найбуйнейшай аргентынскай газеты "LA NACION".*

*"Гэта фільм пра Папу, які хоча рэфармаваць людскія сэрцы і змяніць паставу прадстаўнікоў Касцёла, каб яны пахлі аўчарняй: не асуджалі, а спадарожнічалі пакутуючым гэтага свету", – кажа Элізабета Пікэ, аўтар біяграфіі аб Францішку, на аснове якой быў зняты фільм.*




***Ватыкан: святочная ёлка з Баварыі, а яслі з Трэнта***

***Першапачатковая вышыня дрэва складала 32 метры, але яна была скарочана да 25 метраў для больш зручнага транспартавання. Упрыгожаць ёлку святочныя шары, сярод якіх гліняныя – зробленыя дзецьмі з розных італьянскіх анкалагічных цэнтраў.***

*Бэтлеемскія яслі на ватыканскай плошчы, інсталяцыя якіх ужо пачалася, з'яўляюцца дарам паўночнаітальянскага Трэнта. Іх сцэнаграфія адлюстроўвае сельскі каларыт гэтага рэгіёна. У стаенцы будуць размешчаны 24 фігуры натуральнай велічыні. Акрамя Святой Сям'і і Трох Мудрацоў тут размесцяцца таксама персанажы ў традыцыйных трэнтыйскіх касцюмах сярэдзіны XIX ст. У яслях знойдзе адлюстраванне тэма міласэрнасці, якой будзе прысвечаны наступны год у каталіцкім Касцёле.*

***Кінга Красіцкая***

## Сустрэча для хлопцаў адбылася ў Жупранах

*У сустрэчы ўдзельнічалі маладыя людзі з Мінска, Смаргоні, Бараўлянаў і Жупранаў – усяго каля 20 хлопцаў, якія адчуваюць пакліканне да святарства або кансэкраванага жыцця. Арганізавалі мерапрыемства ксяндзы салезіяне.*

Канферэнцыя пад назвай "Слабасць + пакора = сіла!", якую прамовіў кс. Павел Шчарбіцкі SDB, дапамагала хлопцам зразумець, што слабасць чалавека не перашкаджае пакліканню, але становіцца вялікай сілай, калі яе ў пакоры даверыць Богу, і што ў супрацоўніцтве з Творцам слабы можа ўзрастаць і чыніць вялікія справы.

Таксама падчас сустрэчы хлопцы разважалі аб пакліканні да святарскага служэння ў харызме кс. Боско, прымалі ўдзел у св. Імшы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту.



Сустрэчы для разважання над пакліканнем да святарскага або кансэкраванага жыцця для хлопцаў салезіяне арганізоўваюць чатыры разы на год. Такім чынам арганізатары могуць па працягу года суправаджаць і падтрымліваць маладых людзей, якія адчуваюць пакліканне.

*Наступная такая сустрэча пройдзе 20–21 лютага 2016 года ў г. Смаргонь. Ўзрост удзельнікаў – ад 15 гадоў. Па ўсіх пытаннях можна звяртацца да адказнага за Прэнавіцыят "Таварыства св. Францішка Сальскага" ў Беларусі кс. Івана Огара SDB па тэл.: (+37529) 691-02-22.*

## Перэгрынацыя мініяцюр духоўных сімвалаў СДМ адбылася ў Лідзе

*Услед за моладдзю Гродна мініяцюры духоўных сімвалаў Сусветных дзён моладзі – крыжа і іконы Маці Божай "Salus Populi Romani" – прыняла моладзь Ліды.*

У лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа адбылася святая Імша за моладзь Гродзенскай дыяцэзіі і ўсёй Беларусі. Эўхарыстыю ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, адказны па справах моладзі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

Падчас Імшы моладзь малілася за ахвяр апошніх трагічных падзей у Егіпце і Парыжы. З заклікам да ўдзелу ў Сусветных днях моладзі, якія адбудуцца ў 2016 г. у Кракаве, а таксама з гаміліяй звярнуўся да прысутных кс.



Антоній Грэмза, каардынатар СДМ у Беларусі, які пасля Імшы нагадаў таксама ўмовы ўдзелу ў СДМ.

21 лістапада мініяцюры духоўных сімвалаў Сусветных дзён моладзі былі перададзены маладым католікам Шчучына.

## Акцыя памяці ахвяр дарожна-транспартных здарэнняў

*Дзяржаўтаінспекцыя Гродна і Гродзенскай вобласці сумесна з каталіцкім і праваслаўным духавенствам наведала тыя месцы, дзе ў гэтым годзе загінулі людзі ў аварыях. Святары прачыталі ў месцах, пазначаных крывёю людзей, малітвы аб вечным супакоі для іх і акрапілі гэтыя месцы асвечанай вадой.*

Ксёндз Валерый Спірыдон, вікарый катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, які прымаў удзел у акцыі, адзначыў: "Перш за ўсё, гэта малітва за памерлых, якія загінулі на дарозе, а таксама магчымасць блаславіць удзельнікаў руху". Таксама святар дадаў, што акцыя мае і сацыяльны



характар, таму што спрыяе ўсведамленню ўдзельнікамі руху маральнай адказнасці за парушэнне правіл, што таксама супярэчыць Божай запаведзі "не забівай".

## "Марыя была паклікана наблізіць людзям міласэрнасць"

*Урачыстасць Маці Божай Вастрабрамскай адзначылі ў парафіі ў Бярозаўцы. Яе ўзначаліў біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка.*

Звяртаючыся да прысутных, біскуп сказаў у гаміліі: "Ніхто іншы так, як Маці Укрыжаванага, не спазнаў таямніцы Крыжа, спаткання Божай справядлівасці з любоўю. Ніхто так, як Марыя, не ўспрыняў ахвяру на Крыжы, адкупленне, якое здзейснілася на Кальварыі праз смерць Яе Сына, разам з ахвярай мацярынскага сэрца, разам з Яе канчатковай згодай".

Іерарх звярнуў увагу на тое, што "Марыя найлепш ведае таямніцы міласэрнасці", і гэты Яе тытул нагадвае "аб адвечных планах Найсвяцейшай Трой-



цы адносна міласэрнасці да кожнага чалавека".

Таксама біскуп нагадаў гісторыю абраза Маці Божай Вастрабрамскай і яго значэнне ў развіцці рэлігійнага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім.

## Міністранты і моладзевы хор парафіі ў Шчучыне аднавілі свае абяцанні

*22 лістапада, у нядзелю Хрыста, Валадара Сусвету, у парафіі ў Шчучыне прайшлі традыцыйныя ўрачыстасці, звязаныя з аднаўленнем абяцанняў літургічнай службай алтара і моладзевым хорам "Calasanz".*

Падчас святой Імшы да ліку кандыдатаў, якія рыхтуюцца стаць міністрантамі, далучыліся сем хлопцаў. Некаторыя з міністрантаў у гэты дзень апынуліся на чарговай ступені прыналежнасці да літургічнай службы алтара, а на заканчэнне ўсе міністранты перад пробашчам парафіі а. Вітальдам Пяцельчыцам SP аднавілі свае абяцанні быць добрым прыкладам для ўсіх.

Пасля ўпершыню ў шчучынскай па-



рафіі свае ўласныя абяцанні склаў моладзевы хор "Calasanz", просячы заступніцтва св. Юзафа Каласанса і св. Цэцыліі. Удзельніцы атрымалі знакі прыналежнасці да хору. Да "Calasanz" у гэтым годзе далучыліся сем кандыдатак.

## "Няхай пасланне міласэрнасці дасягне сэрцаў вернага люду"

*17 лістапада ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне адбылася пастарская сустрэча духавенства Гродзенскай дыяцэзіі. Падчас сустрэчы святары маліліся за ўсіх вернікаў дыяцэзіі з нагоды дыяцэзіяльнай урачыстасці Маці Божай Міласэрнасці.*

Праграма пастарскай сустрэчы ўключала канферэнцыю, адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту, магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння і паяднання. Галоўнай падзеяй была святая Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя, якую ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч і канцэлебравалі святары дыяцэзіі.

У гаміліі біскуп Аляксандр казаў аб значэнні тытулу "Маці Міласэрнасці", які



носіць апякунка дыяцэзіі. Таксама іерарх заклікаў усё духавенства Гродзенскай дыяцэзіі даверыць Панне Марыі сваё святарства і штодзённае служэнне ў Хрыстовым Касцёле, бо, як адзначыў, кожны святар з'яўляецца распараджальнікам Божай міласэрнасці.

## Фрагмент пастарскага ліста ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча на Адвэнт 2015 года



*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

**Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры, дарагія Дыяцэзіяне! У чарговы раз нам дадзена стаяць на парозе Адвэнту – вельмі важнага і прыгожага перыяду літургічнага года, які павінен нас падрыхтаваць духоўна да сустрэчы з Езусам Хрыстом у таямніцы Яго нараджэння.**

Перад намі чатыры тыдні радаснага чакання, трывалага чування, ачышчэння сэрцаў і абуджэння ў іх суму па Збаўцы, які, нібы ажыўляючая раса, сыходзіць з нябёс і, "прыняўшы постаць слугі" (Флп 2, 7), аб'яўляецца нам як Эмануэль – Бог з намі. Адвэнтавы настрой чакання і суму прыгадвае нам, што прыходу ў свет Хрыста Пана, які змяніў бег гісторыі чалавецтва, папярэднічала доўгае чаканне выбраным народам спаўнення Божых абяцанняў. Слухаючы Божае слова, якое абвяшчалася пракрокамі, ізраільцяне вучыліся чытаць гісторыю ўласнага народа як рэалізацыю збаўчага плану Пана Бога. Не толькі ў часы міру і дабрабыту, у радасці перамог і поспехаў, але і ў горычы паражэнняў і няўдач, у досведзе няволі і пакарэння выбраны народ трывала і даверліва верыў у Бога добрага і міласэрнага, справядлівага і вернага ўласным абяцанням. [...]

***З поўнай версіяй пастарскага ліста можна пазнаёміцца на сайце grodnensis.by.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці верыце Вы ў тое, што пасля смерці чалавека чакае вечная ўзнагарода ці кара?***




*Чарговае апытанне дае кожнаму магчымасць задумацца над тым, што нас чакае пасля смерці. Большасць рэспандэнтаў верыць у тое, што пасля смерці кожнага чалавека чакае ўзнагарода або кара за жыццё на зямлі. Кожнаму варта прыгадаць з катэхізіса апошнія рэчы для чалавека: смерць, Божы суд, рай або пекла.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Пасля перажытых лістападаўскіх свят большасць з нас, наведваючы на могілках сваіх памерлых блізкіх, яшчэ раз задумалася над вартасцю зямнога жыцця і таго, што чакае нас пасля смерці. І калі тут, на зямлі, кожны з нас любіць узнагароды і пазбягае ўсялякай кары, тым больш мы павінны зрабіць усё, каб заслужыць вечную ўзнагароду ў Небе. У Касцёле мы ўсе як адна сям'я ідзём да Хрыста па ўзнагароду. А таму давайце прыкладзём усе намаганні, каб ужо тут, на зямлі, быць разам з Хрыстом, каб не адкладваць гэты момант на апошнюю хвіліну, бо ніхто з нас не ведае ні дня, ні гадзіны.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**3 снежня 1964 г.** – кс. Станіслаў Смялоўскі, *проб. Казловічы;*
**3 снежня 2002 г.** – кс. Юзаф Кісель, *проб. Вішнева;*
**6 снежня 2001 г.** – кс. прэлат Алаізій Тамковіч, *проб. Астравец;*
**9 снежня 1942 г.** – кс. Ян Селевіч, *проб. Варняны;*
**9 снежня 1958 г.** – кс. Ян Славінскі, *проб. Поразава;*
**13 снежня 1997 г.** – кс. Юзаф Рагінькі, *проб. Лаздуны.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




***Распачынаецца Адвэнт – час чакання Нараджэння Хрыста. Праз пакаянне, малітву і добрыя справы людзі запрашаюць Збаўцу ў свае сэрцы, імкнучыся ахвяраваць нованароджанаму Езусу адноўленае духоўнае жыццё.***

***Каб з'яднацца з Хрыстом і праз Яго наблізіцца да Айца, прапануем Вам скарыстацца з малітвы Lectio Divina. Падчас яе чалавек намагаецца адказаць на Божае слова.***

## МАЛІТВА СВЯТЫМ ПІСАННЕМ

У перакладзе з латыні Lectio Divina азначае "Боскае Чытанне". Гэта род малітвы, які грунтуецца на павольным, сузіральным чытанні Святога Пісання. Мы, хрысціяне, верым, што Божае слова Духам Святым дзейнічае ў нашых сэрцах. Таму імкнёмся праз прачытанае зразумець, што Усявышні хоча сказаць асабіста нам.

Святое Пісанне заўсёды абвяшчаецца падчас літургіі. Акрамя таго, яго рэкамендуецца чытаць індывідуальна: не дзеля таго, каб стаць разумнейшым, а каб спасцігнуць таямніцу разумення Хрыста.

Каб ушчыльную наблізіцца да Божага слова, чалавеку трэба валодаць асаблівай унутранай пакорай і чысцінёй сэрца. Неабходна намаганне, каб адарвацца ад штодзённасці. "Бог гаворыць у цішыні" – такі надпіс і сёння можна сустрэць на сценах некаторых кляштараў.

## ЗНАХОДЖАННЕ З БОГАМ І АДПАЧЫНАК У ІМ

Lectio Divina была вядома ўжо ў патрыстычны перыяд (IV–V ст.). Атрымала сваё развіццё ў перыяд позняга сярэднявечча, і амаль поўнасцю знікла ў XV ст. Як форма манаскай і пазаманаскай малітвы пачала адраджацца ў XX ст. разам з развіццём французскага біблійна-літургічнага руху.

Сёння існуе шмат форм Lectio Divina, аднак апісанне, якое прапанаваў манах Гвіга ў 1173 годзе, з'яўляецца фундаментальнай асновай для дадзенай практыкі. Гэта крокі, якія можна параўнаць з лесвіцай з чатырма прыступкамі – духоўнымі практыкаваннямі: чытанне, разважанне, малітва і сузіранне. Варта ўсведамляць, што гэта не набор правіл, а апісанне натуральных працэсаў развіцця малітвы: ад размовы ў бок усё большага слухання.

Боскае чытанне можа быць індывідуальным і групавым. Падчас індывідуальнай практыкі чалавек знаходзіцца сам-насам з сабой. На працягу групавых чытанняў удзельнікі думаюць у прысутнасці адзін аднаго, абменьваюцца духоўным багаццем, якім Божае слова адарыла іх сэрцы.

Час, прадугледжаны для Lectio Divina, – каля адной гадзіны. Але гэты час адносны, бо Пан сам вядзе чалавека. Усё залежыць ад жадання і падрыхтаванасці асобы.

Канкрэтнай мэты ў Lectio Divina не існуе, тут важны сам працэс – знаходжанне з Богам, адпачынак у Ім і прадастаўленне Усявышняму магчымасці дзейнічаць у чалавеку.

## З ЗАКЛІКУ ДУХА ДА СУЗІРАННЯ БОГА

Да Lectio Divina трэба падрыхтавацца маўчаннем і малітвай. Забыцца пра штодзённыя праблемы, адмовіцца ад трывог і хваляванняў. Усе думкі павінны быць скіраваны толькі на Бога. Неабходна звярнуцца да Святога Духа, каб Ён адкрыў вушы сэрца і дапамог зразумець Слова.

**Прапануецца выбраць зручную позу і выраўняць дыханне. У дапамогу сабе можна паставіць абраз або запаленую свечку.**

### 1. LECTIO – ЧЫТАННЕ

Фрагмент Святога Пісання прачытваецца паволі некалькі разоў. Услых, калі гэта магчыма. Можна выкарыстаць аловак, каб падкрэсліць некаторыя канкрэтныя словы і фразы або важныя думкі, якія кранулі сэрца. Часам карысна перапісаць тэкст. Гэта прымушае да большай канцэнтрацыі, дазваляе ўхапіць тыя аспекты тэксту, якія не былі заўважаны раней.

### 2. MEDITATIO – РАЗВАЖАННЕ

Чалавек імкнецца паглыбіцца ў сэнс прачытанага, "разжаваць" яго ў сваім сэрцы. Гэта этап, на якім асоба задае сабе пытанне: "Як я магу змяніць сваё жыццё ў адпаведнасці з Божым словам, якое толькі што пачуў?".

Падчас разважанняў можна выкарыстоўваць рознага роду даследаванні і біблейскія каментарыі, якіх дастаткова шмат. Але варта рабіць гэта з вялікай павагай да самога тэксту.

### 3. ORATIO – МАЛІТВА

Пасля глыбокіх разважанняў узнікае непераадольная неабходнасць малітвы. У залежнасці ад таго, што змяшчае тэкст, яна можа адгукнуцца ў сэрцы просьбай, падзякай або праслаўленнем.

Маліцца – значыцца адказваць Богу, выслухаўшы Яго словы. Як казаў святы Аўгусцін: "Калі ты чытаеш Святое Пісанне, то Бог гаворыць з табой, а калі молішся, ты гаворыш з Богам". Такім чынам, мы маем магчымасць дыялогу з Усявышнім.

### 4. CONTEMPLATIO – СУЗІРАННЕ

Сузіранне – гэта пачуццё прысутнасці Бога і невымоўная радасць ад Яго наведвання. Чалавек апускаецца на тую глыбіню сэрца, дзе Гасподзь кажа ціхім, нібы павеў ветру, голасам. Гэта не плод якіх-небудзь каласальных намаганняў, а, хутчэй, дазвол на дзеянне Духа Божага.



*Ксёндз Аляксандр Мацкевіч, выкладчык Святога Пісання ў Гродзенскай ВДС*

**Кожнае духоўнае практыкаванне – гэта намаганне і справа, якой чалавек навучаецца. Таму ў Lectio Divina ён паступова адкрывае для сябе ўсё гэтае багацце. Добра было б, каб кожны, хто зацікавіўся гэтай формай малітвы, спрабаваў і не губляў ахвоты, нават калі з першага, другога, трэцяга разу ў яго не зусім атрымаецца. Рэгулярна практыкуючы заняткі гэтага тыпу, у нас усё лепш будзе атрымлівацца. Кожны раз з гэтага будзе ўсё большая карысць. Гаворка пра тое, каб мы навучыліся чытаць Святое Пісанне, разважаючы над ім, усведамляючы тое, што Святы Дух прамаўляе да нас, што сам Пан Бог з намі размаўляе. Гэта не толькі кніга, якая пашырае нашыя веды, яна таксама ўводзіць нас у больш блізкі кантакт з Богам. Калі мы будзем гэта ўсведамляць, калі з такімі адносінамі будзем падыходзіць да Lectio Divina, то ўбачым, што яна вельмі ўзбагаціць нас, наблізіць да Пана, паглыбіць любоў да Яго Слова, якое з'яўляецца для нас крыніцай Аб'яўлення.**

*Ангеліна Пакачайла*

## Лепш пытаць, чым памыляцца



*Кс. Андрэй Лішко*

***Што робяць маладыя пары, якія хочуць узяць касцёльны шлюб, але жывуць у розных гарадах? Як яны праходзяць навучанне перад шлюбам? Як атрымліваюць пасведчанне пасля яго?***

*Вельмі добра і варта пахвалы тое, што Вы сумленна ставіцеся да тэмы перадшлюбнай падрыхтоўкі. Падчас падрыхтоўчых сустрэч Вы напэўна адкрыеце нешта новае для сябе (напр.: праўды і асновы хрысціянскай, каталіцкай веры, традыцыю і літургію сакраманту сужэнства, пазіцыю і погляды каталіцкага Касцёла ў некаторых справах, якія датычацца сексуальнай этыкі і г.д.). Без сумненняў, не будзе зноў вынайдзена кола.*

*Ведаю, што ў многіх парафіях практыкуюцца індывідуальныя сустрэчы з нарачонымі, многія маюць спецыяльны курс сужэнскіх сустрэч (напр., у Гродзенскай катэдры іх 8). Калі казаць аб сужэнскай навуцы перад прыняццем сакраманту сужэнства, было б ідэальна, каб пары разам прыходзілі на сустрэчы. Але штодзённае жыццё, быт дае аб сабе знаць: вучоба, праца, іншыя фактары часта не дазваляюць сумесна прысутнічаць на гэтых сустрэчах. Калі не дазваляюць абставіны, перадшлюбнае навучанне можна прайсці і паасобку, нават у розных гарадах. Кожны святар ці манаская сястра абавязкова выдадуць пасведчанне. Але раіў бы Вам абавязкова сумесна са сваёй другой палавой і са сваім душпастарам ці святаром, які будзе асіставаць пры ўдзяленні сакраманту, разам запоўніць перадшлюбны пратакол. Яму неабходна прадставіць пасведчанне залічаных перадшлюбных сустрэч і навучання, і, напэўна, абгаварыць з ім некаторыя пытанні адносна літургіі. Душпастар павінен ацаніць усю сітуацыю. Напрыклад, калі трэба, павінен выпісаць ліцэнзію (у тым выпадку, калі Вы будзеце вянчацца зусім у іншай парафіі), напісаць просьбу аб дыспэнсе да біскупа ў справе іншых веравызнанняў ці рэлігій і г.д.*

*Паводле grodnensis.by*



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

## Вернікі парафіі Святога Духа ў Гродне ўшанавалі Маці Міласэрнасці

Урачыстасць у гонар Маці Божай Вастрабрамскай, галоўнай заступніцы Гродзенскай дыяцэзіі, адзначылі 16 лістапада. Літургію ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі. Звяртаючыся з гаміліяй да сабраных вернікаў, іерарх заахвоціў шукаць ратунку і суцяшэння ў Маці Божай, паколькі Яе сэрца заўсёды адкрыта для дзяцей Божых. "Прасіце Божую Маці ва ўсіх інтэнцыях, асабліва давярайце свае сем'і: няхай Марыя будзе ўзорам для кожнага з вас, няхай абароніць ад спакус і знішчэння грахом", – сказаў біскуп.

На заканчэнне св. Імшы дзеці, якія другі год рыхтуюцца да Першай Камуніі, атрымалі з рук біскупа абразкі з выявай Маці Міласэрнасці.







# Карціна

***Прывітанне, Маленькі Сябар! З дня ў дзень вакол нас адбываюцца маленькія цуды: свеціць сонца, дзьме вецер, падае дождж. У небе лётаюць птушкі, па зямлі ходзяць жывёлы. Свет такі разнастайны, што не хопіць жыцця, каб пералічыць усё, што ў ім адбываецца. Толькі ўявіце: быў час, калі нічога гэтага не існавала. Даўным-даўно свет быў створаны Нябесным Айцом. Ён пасяліў у ім чалавека, каб той жыў, радаваўся і праслаўляў Бога.***

***Сёння прапануем Табе паразважаць над прыпавесцю пра бязбожніка, які не верыў у Стварыцеля неба і зямлі.***

*Сустрэліся аднойчы бязбожнік і мудрэц. Бязбожнік стаў гаварыць мудрацу, што Бога няма і наогул смешна верыць у тое, што хтосьці стварыў увесь навакольны свет. Мудрэц пярэчыць бязбожніку не стаў, толькі сказаў яму, што зойдзе ў госці праз пару дзён.*

*Праз некалькі дзён мудрэц ізноў прыйшоў у дом бязбожніка і прынёс яму ў падарунак прыгожую карціну. Бязбожнік быў у захапленні. Ніколі яму яшчэ не даводзілася бачыць такой дасканалай прыгажосці.*

*– Які цуд! – ускрыкнуў ён. – Хто намаляваў гэты шэдэўр?*

*– Ды ніхто! – адказаў мудрэц. – Ляжала ў мяне ў каморы скрынка з фарбамі, а пад ёй – чыстае палатно. Ляжала сабе і ляжала. А ўчора я яе зачапіў і перакуліў. Фарбы з яе выліліся, ды прама на палатно. І ўявіце сабе, такім вось цудоўным чынам на палатно ляглі, што карціна гэтая і атрымалася.*

*– Ды вы смяецеся з мяне! – усклікнуў бязбожнік. – Як гэта – выліліся? Быць такога не можа. Вы толькі паглядзіце на гэтае палатно: якая кампазіцыя, якая глыбіня задумы, як выпісаны дэталі... Ні за што не паверу, што тут абышлося без пэндзля геніяльнага творцы!*

*– Вось бачыце, – сказаў мудрэц, – вы і ў думках не дапускаеце, што гэтая карціна магла з'явіцца сама сабой, выпадкова, без задумы мастака і творцы. Як жа я магу паверыць у тое, што гэтае неба, якое ў нас над галавой, гэтая трава пад нагамі, гэтыя дрэвы, рэкі, азёры, лясы, лугі, горы і даліны з'явіліся выпадкова, без задумы і волі найвялікшага Стварыцеля?*

*Бязбожнік нічога не адказаў і задумаўся.*

*Як паступіў у спрэчнай сітуацыі мудрэц?*
*Што ён прынёс у падарунак бязбожніку?*
*Ці была праўдападобнай гісторыя, якую расказаў мудрэц?*
*Чаму ў яе не паверыў бязбожнік?*
*Хто стварыў свет?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Вітэку з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні ўсяга найлепшага. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай любові і міласэрнасці, а таксама напоўнены Яго шчодрымі ласкамі і бласлаўленнем. Няхай Маці Божая і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Воранава*

Паважанаму Ксяндзу Валерыю Орсіку з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, а вера – непахіснай, з твару няхай не сыходзіць усмешка, а ў сэрцы заўсёды палае любоў да Бога і людзей навокал. Няхай Маці Божая – Маці святароў – ахіне Вас сваёй апекай і суправаджае па святарскім шляху, каб разам з Вамі і мы прыйшлі ў Валадарства Нябеснае.

*Сям'я Спургяш, Бярозаўка*

Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем свае шчырыя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорыць Вас усімі сваімі ласкамі і бласлаўленнем, дадасць упэўненасці, умацуе сілы і напоўніць супакоем. Найсвяцейшая Маці няхай ахіне Вас плашчом сваёй апекі і любові, а Анёл-ахоўнік няхай нястомна над Вамі чувае. Шчасці Божа!

*Парафіяне і Ружанцовае кола МБ Анёльскай з Каробчыцаў*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму з нагоды Дня імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі св. Заступніка, а таксама рэалізацыі ўсіх высакародных планаў і намераў, душэўнага супакою, аптымізму і добрых людзей побач.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Рандзілаўшчыны*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Духа Святога, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы ўдзячны Пану Богу за тое, што ў нас служыць шчыры ў малітве святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека.

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

Паважаны Ксёндз Пробашч Яўген Учкуроніс! З нагоды Дня нараджэння жадаем, каб дарога, якой Вы штодзённа крочыце, была шчаслівай і бласлаўлёнай, здароўе – моцным, а радасць – штодзённай. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца. Мы вельмі ўдзячны Богу за Вас, а Вам дзякуем за навуку і веды, якімі Вы дзеліцеся з намі, а таксама за клопат пра наш касцёл.

*Парафіяне з касц. у Луконіцы*

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог бласлаўляе Вас і ўзнагароджвае за Вашу дабрыню і вялікае сэрца.

*З вялікай павагай былыя парафіяне з Варнянаў*

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, цярплівасці ў выкананні душпастарскіх абавязкаў, штодзённай радасці, добразычлівасці ад людзей навокал, шчасця і душэўнага супакою. Няхай усемагутны Бог нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем, Найсвяцейшая Маці Божая Вастрабрамская ахінае сваёй апекай, а Святы Дух спасылае на Вас свае дары.

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з пар. Унебаўзяцця НПМ з Дзятлава*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму з нагоды Імянін жадаем шчасця і поспехаў у святарскім служэнні. Мы, вернікі, дзякуем Богу за тое, што сустрэлі Вас на сваім жыццёвым шляху. Складаная, няпростая гэта справа – навучыць нас, выхаваць духоўна здаровымі і адказнымі вернікамі. Але Вы здолелі стаць для нас добрым пастарам і старанна вучыце ісці па шляху, які вядзе да паяднання з Богам, настаўляеце няўмелых і падтрымліваеце слабых, суцяшаеце засмучаных і адпускаеце грахі грэшным, бласлаўляеце і моліцеся за нас. Вы заўсёды падаеце прыклад глыбокай малітвы, мудрага слова і духоўнай моцы. Кожнае Ваша казанне – гэта бальзам для нашых душ, абвешчанае Вамі Божае слова мы захоўваем у сваіх сэрцах і стараемся кіравацца ім у сваім жыцці. Жадаем Вам Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа.

*Са шчырай малітвай парафіяне з Рандзілаўчыны*

Паважанаму Ксяндзу Мікалаю Ціхановічу з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, усіх Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю і супакоем.

*З малітвай Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Стапыру з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні Божага бласлаўлення і апекі св. Заступніка. Жадаем таксама моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшай душпастарскай паслугі. Няхай Бог адовае Вас усімі ласкамі і ўмацоўвае для выканання нялёгкай святарскай працы. Шчыра дзякуем Вам за клопат пра нашу парафію, за навуку, цярплівасць і ахвярную працу. Шчасці Божа!

*З павагай удзячныя парафіяне з Бярозаўкі*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў і 100 гадоў жыцця. Дзякуем за казанні, якія Вы прамаўляеце ў касцёле, і за тое, што робіце для нас шмат дабра. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе высцелены пялёсткамі руж за адданую паслугу людзям. Няхай Дух Святы спасылае на Вас свае дары, Маці Божая адорвае цеплынёй свайго сэрца, а Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі. Шчасці Божа!

*Колы святога Ружанца і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Агелю з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, сіл і стойкасці ў працы, зычлівасці і Божага бласлаўлення на кожны дзень. Жадаем нястомнай апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама дароў Святога Духа. Няхай планы рэалізуюцца, а побач будуць добрыя людзі. Шчасці Божа!

*Верныя парафіяне з касц. Унебаўзяцця НПМ у Лідзе*

Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу з нагоды 8-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай Святы Дух напаўняе Вас святлом, каб Вы заўсёды мелі сілу і мужнасць быць адлюстраваннем святла Езуса. Няхай надзея на лепшае заўтра заўсёды будзе ў Вашым сэрцы, а Беззаганнае Сэрца Марыі няхай абараняе Вас і вядзе да святасці.

*Удзячныя за дар святарства парафіяне са Свіслачы*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу з нагоды Імянін прагнем скласці найлепшыя пажаданні. Жадаем адвагі, каб заўсёды адкрываць перад людзьмі скарб Божых таямніц, каб захоўваць тое, што было даручана Касцёлу. Жадаем у сённяшнім патоку слоў, гукаў і вобразаў не дазволіць заглушыць у сабе Божы голас, а ўзмоцненаму ласкамі веры і надзеі разам крочыць дарогай да Неба. Мы ўдзячны Вам за штодзённае сведчанне, за тое, што знаходзіце словы і ўчынкі, за ахвярнасць у набліжэнні нам Божага Валадарства, за ўсмешку і радасць, што Вы выпраменьваеце.

*З дарам малітвы ўдзячныя за ўсё парафіяне з Росі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавецкаму, ініцыятару і арганізатару пілігрымкі да святых месцаў на зямлі суседняй Літвы, ад імя ўсіх пілігрымаў адрасую словы ўдзячнасці і шчырай падзякі за магчымасць духоўна ўзбагаціцца. Заваражвае Ваша глыбокая вера ў Бога, эрудыцыя, інтэлігентнасць і самаадданасць у душпастарскай працы. Прыемна ўспрымаецца Ваш гумар і павага да кожнага. Ад усяго сэрца жадаем Вам здароўя, штодзённай радасці ў святарскім служэнні, супакою ў думках, апекі Маці Божай на кожную хвіліну. Вы – наш муды духоўны настаўнік. Дзякуй, што лечыце нашы душы!

*М. Коркінец ад імя ўдзельнікаў пілігрымкі*

Паважанаму Айцу Андрэю Ядкоўскаму з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай добры Бог адорвае Вас сваім бласлаўленнем і ўмацоўвае ў выкананні нялёгкай святарскай паслугі, Маці Божая няхай моцна трымае Вас за руку і вядзе па дарозе да свайго Сына, няхай св. Заступнік чувае над Вамі, а побай заўсёды будуць добрыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя, шчасця, аптымізму і душэўнага супакою.

*Парафіяне з Вялікай Бераставіцы*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кевлюку з нагоды Імянін шчыра жадаем усяго найлепшага: радасці, надзеі, аптымізму, супакою ў душы і сэрцы, моцнага здароўя і здзяйснення ўсіх мар. Няхай Ваш св. Заступнік нястомна чувае над Вамі і накіроўвае дарогай да Пана, а ўсемагутны Бог няхай адорвае сваім айцоўскім бласлаўленнем.

*Парафіяне з Ішчолна*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, штодзённай радасці, душэўнага супакою ў дасягненні пастаўленых мэт, а таксама шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Апостальства "Маргарытка" і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 7042; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная